БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

4 студзеня 1994 г.
Аўторак
№ 1(13717)
Кошт у розніцу 20 рублёў
Выдаецца з 1921 года

У НУМАРЫ:




Малюе Віктар ДУБОВІК

З НОВЫМ ГОДАМ!



# "Чырвоная змена" застаецца і надалей вернай справе нацыянальнага адраджэння

□ Уладзімір БЕЛЬСКІ, галоўны рэдактар

Дарагія сябры! Гадзіннік гісторыі пачаў адлічваць дні і час новага, 1994 года. З надзеяй на лепшае мы ўглядваемся ў заўтрашняе будучае і хочацца верыць, што нашы спадзяванні будуць здзейснены і той нялёгкі шлях мінулага года не прыйдзецца больш паўтарыць. Не сакрэт, што ён для "Чырвонай змены" быў зусім не простым, калі не складаным. Адзіная беларуская маладзёжная газета крок за крокам заваёўвае свае пазіцыі ў чытачоў. Сёння выйшаў яе першы нумар гэтага года, і хочацца толькі адзначыць, што тыраж за адзін год вырас амаль у дваццаць разоў(!) і колькасць нашых сяброў складае цяпер 60 тысяч.

Вялікае дзякуй усім, хто ў цяжкую гадзіну не пакінуў нас і працягнуў руку дапамогі. "Чырвоная змена" з'яўляецца незалежным маладзёжным выданнем, займае нейтральнае становішча сярод розных палітычных партый і грамадскіх рухаў, адносіцца да іх з павагай і разуменнем. Мы застаёмся вернымі сваёй пазіцыі нацыянальнага адраджэння.

Наша газета падтрымлівае працэсы, якія спрыяюць нацыянальнаму абуджэнню нацыі, станаўленню незалежнасці рэспублікі, пабудове прававой дзяржавы. Мы беражліва і з разуменнем ставімся да нашай роднай гісторыі, мовы, культуры, паважаем погляды ветэранаў, людзей больш сталага ўзросту, фарміраванне якіх праходзіла ў іншай палітычнай сістэме. Мы не стаялі і не будзем стаяць на пазіцыях распальвання нацыянальнай варожасці. Нам будаваць свой дом і акрамя нас ніхто яго не ўзвядзе. Гісторыя і час распарадзяцца, каму якое ў гэтым доме па яго ўдзелу заняць месца.

"Чырвоная змена" — адна з самых старэйшых беларускіх газет, і мы ўжо сёння рыхтуемся да яе юбілею — 75-годдзя з дня выхаду першага нумара. Гісторыя газеты — гэта гісторыя нашай Радзімы, людзей, якія працавалі над яе выпускам, і тых, пра каго пісала "Чырвоная змена", таму мы беражліва адносімся да ўсяго набытага газетай, што дзесяцігоддзямі збіралася ў яе скарбонку. Таму і яе назву, пра якую ў свой час было многа спрэчак, мы змяняць не маем маральнага права. Гэта своеасаблівы сімвал, з якім гуртаваліся і гуртуюцца чырвоназменаўцы розных пакаленняў.

Пра што мяркуе расказаць "Чырвоная змена" ў гэтым годзе? Пытанні гісторыі, культуры, палітыкі, палітычных партый і рухаў, маралі і права, дзейнасці ўрада, музыкі, ваенная тэма, эканоміка, юрыдычныя даведкі, праграма тэлебачання і каментарыі да яе, і іншае — усё гэта будзе на старонках газеты. З новага года ў нас адкрыта сваё рэкламна-інфармацыйнае агенцтва "ЧЗ-інфарм", якое будзе прадстаўляць самую свежую і аператыўную інфармацыю. Хочацца асабліва адзначыць, што толькі ў "Чырвонай змене" ўстаноўлена спадарожнікавая сувязь, праз якую мы штодзённа прымаем аператыўную інфармацыю вядучых замежных тэле- і радыёкампаній свету, якая пасля апрацоўкі трапляе на старонкі газеты.

Час прымусіў "Чырвоную змену" займацца і камерцыйнай дзейнасцю. Газета разам з Саюзам моладзі Беларусі ўтварылі газетна-выдавецкае закрытае акцыянернае таварыства "Маладняк" (правапераемнік газетна-выдавецкай фірмы "Белая Русь"). Гэта дае магчымасць больш упэўнена адчуваць сябе ў той складанай эканамічнай сітуацыі, у якой аказаліся сёння газеты.

Дарагі чытач! Яшчэ раз шчыра дзякуем за тваю падтрымку, спадзяёмся, што будзем разам і надалей. З Новым годам цябе, плёну і новых здзяйсненняў!

## Кур'ер "ЧЗ"

### СТОП-ФАКТ

### Работы будуць працягвацца

*Паспяхова прайшлі першыя выпрабаванні новага абсталявання ў новых цэхах 1–га малаказавода.*

Намеснік дырэктара прадпрыемства М.Е.Капацэвіч сказала, што новае абсталяванне ў асноўным імпартнае. І каб давесці яго да добрага рабочага стану, работы на гэтым абсталяванні будуць працягвацца, хоць і адчуваецца недахоп паступаючай малочнай прадукцыі. Плануецца, што кожныя суткі новыя магутнасці змогуць перапрацоўваць не менш як 320 тон малочнай прадукцыі.

### З капейкі да 35 рублёў

*вырас за даволі кароткі час кошт запалак.*

Мо пара ўжо ўспомніць пра дзедаўскія "запалкі" — крэмень ды цэру? Яны хоць і нязручныя, затое больш танныя.

### І ў трактара ёсць сэрца...

Мінуў той час, калі маторы Мінскага маторнага завода ішлі толькі на трактары. Ужо ў мінулым годзе 400 "ЗіЛаў" атрымалі беларускія маторы. А ў гэтым годзе ўжо ў 15 тысяч "ЗіЛаў" "застукаюць сэрцы" з Мінскага маторнага. Зараз на заводзе працуюць над выпускам аўтамабільнага варыянта рухавікоў для пераводу машын Горкаўскага аўтазавода на дызельныя рухавікі з Мінска.

А.СЦЯПАНАЎ.

### Барысаўчане не давяраюць сваім уладам

*Днямі Барысаўская гарадская арганізацыя Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі прыняла палітычную заяву, прысвечаную вынікам збору подпісаў у падтрымку прапановы аб правядзенні гарадскога рэферэндуму аб даверы Барысаўскаму гарсавету.*

У заяве, у прыватнасці, гаворыцца, што гадавая праца Барысаўскай арганізацыі АДПБ па падрыхтоўцы гарадскога рэферэндуму з мэтай пакласці канец бяздзейнасці гарадскіх улад і дапушчальным імі злоўжыванням скончылася паспяхова.

Барысаўская арганізацыя АДПБ заявіла аб сваім рашэнні пачаць падрыхтоўку гарадскога рэферэндуму. Ініцыятыўная група па яго правядзенню перадала ў гарвыканкам больш чым 6,5 тысячы подпісаў барысаўчан, якія падтрымліваюць ідэю правядзення рэферэндуму. Гэта значна больш подпісаў, патрэбных па Закону аб рэферэндуме.

### Транспартны дабрабыт – сёння мара

*Далейшае скарачэнне пасажырскіх перавозак недапушчальна — гэта прызнана ўжо не толькі прадстаўнікамі транспартнай галіны, але і ўрадам Беларусі.*

Вярхоўны Савет прыняў рашэнне набыць за кошт рэспубліканскага бюджэту ў 1994 годзе прыкладна 400 новых аўтобусаў. Гэта, вядома, не вырашыць вострую транспартную праблему, аднак, дасць магчымасць хоць як-небудзь падтрымаць парк, дзе частка аўтобусаў настолькі пазнасілася, што ўжо практычна не ў стане функцыяніраваць.

Аднак нават пры дапамозе ўрада да транспартнага дабрабыту, дзе найбольш характэрным з'яўляецца 1991 год, яшчэ вельмі далёка.

### Мінздрау папярэджвае...

*Адбылося чарговае пасяджэнне калегіі Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь, на якім разглядаліся праблемы лекавага забеспячэння лячэбна–прафілактычных установ рэспублікі, а таксама радыяцыйная бяспека персаналу і пацыентаў пры правядзенні рэнтгенадыягнастычных працэдур.*

Намеснік галоўнага ўрача рэспубліканскага Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Леанід Мелешка адзначыў, што неабходна палепшыць падрыхтоўку спецыялістаў у галіне рэнтгенадыягностыкі, замяніць старое абсталяванне, распрацаваць праграму нерэнтгеналагічных метадаў дыягностыкі. Для жыхароў нашай рэспублікі, якія і без таго знаходзяцца пастаянна пад уздзеяннем радыяцыі, гэтыя праблемы вельмі важныя. Аказваецца, 30 працэнтаў абсталявання для рэнтгенадыягностыкі састарэла і не адпавядае патрабаванням бяспекі.

На калегіі было адзначана, што ўжо ў 1994 годзе ў лячэбныя ўстановы рэспублікі будзе пастаўлена 56 сучасных рэнтгенаўстановак.

### Білбіятэкі для ўсіх на любы густ

*Спачатку гэтага года ў Магілёве пачынае дзейнічаць новая аб'яднаная сістэма публічных бібліятэк.*

Для зручнасці чытачоў усіх узростаў дзіцячыя і дарослыя бібліятэкі горада аб'яднаны ў адзіную цэнтральную сістэму. Цяпер любая бібліятэка, незалежна ад былога статуса, будзе абслугоўваць дарослых і дзяцей, да таго ж без тэрытарыяльных абмежаванняў. Навастворaная структура павінна таксама згладзіць крыху нераўнамернае размяшчэнне бібліятэк па горадзе. Трэба адзначыць, што ніхто з іх супрацоўнікаў не пазбавіцца работы і не страціць у заработнай плаце.

БелаПАН.

### Афіцэры знімаюць пагоны. Чаму?

*Пра нежаданне юнакоў служыць у радах арміі вось ужо не адно дзесяцігоддзе вядзецца вельмі і вельмі шмат размоў. Тэма гэта надзвычай актуальная для суверэннага беларускага войска.*

Але, як стала вядома з кампетэнтных крыніц, не ўсё добра і ў афіцэрскім корпусе.

Звыш 1300 маладых афіцэраў — выпускнікоў ваенных вучылішчаў папоўнілі сёлета войска Беларусі. Аднак каля 400 з іх пакінулі ўжо службу па асабістых рапартах. Прычыны? Неўладкаванасць быту, адсутнасць адпавядаючых профілю вайсковых пасад і іншыя — прымусілі 22—23-гадовых афіцэраў зняць пагоны. Падаюцца хлопцы хто куды: у міліцыю, камерцыю, на заводы... Ёсць сярод іх і беспрацоўныя.

Алесь МЯСНІКОЎ.

### Помнікі барока на Беларусі

*У рамках дзесяцігадовай праграмы ЮНЕСКО "Сусветнае развіццё культуры" (1987—1997гг.) рэалізуецца шматабяцаючы праект "Сусвет барока".*

Ён уключае ў сябе шырокае вывучэнне помнікаў барока, якія захаваліся ва ўсім свеце, а таксама распаўсюджванне сабранай на гэты конт інфармацыі.

Усе падрыхтаваныя матэрыялы будуць апублікаваны ў пяцітомным Атласе сусветнага барока, дзе размесцяцца разнастайныя весткі барочнай спадчыны 49 краін свету і 25 дзяржаў Еўропы. Сярод іх значнае месца адводзіцца помнікам Беларусі вызначанага перыяду. Нясвіжскаму і Гродзенскаму фарным касцёлам, манастырскаму корпусу ў Полацку (гэтак званаму дому Сімяона Полацкага).

Зараз вядзецца падрыхтоўка да выдання першага тома. Створаны навуковы камітэт і распрацавана прыкладная структура. Першы том прысвечаны архітэктуры і мастацтву. На яго пяцістах старонках размесцяцца звесткі аб 2 тысячах 800 помніках барока.

Наступныя чатыры тамы паведамяць аб жывапісе і скульптуры, дэкаратыўным мастацтве і музыцы, літаратуры і тэатры.

Святлана КУЛІКОВА.

### Курсы валют на 3 студзеня:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 5280(6250) | 5540 | 3105(3675) | 3255 |
| "Прыор" | 5000(5500) | 5400 | 2940(3230) | 3170 |
| "Дукат" | 5200 | – | 3000 | – |

*(У дужках —курс за безнаяўны разлік)*

### ІНФА-КРЫМ

### Вогненныя феерверкі

*АСІПОВІЧЫ. Сярод розных злачынстваў мясцовага характару на паверхню ўсё больш "усплываюць" падпальванні.*

Так, аднойчы ноччу ўспыхнуў дом грамадзянкі С., якая пражывае па завулку Чыгуначным пасёлка Елізава. Згарэла частка будынка і маёмасць. Паводле звестак мясцовага ГРАУС, падпал учыніў былы зяць С. Вядзецца следства. А вось па вуліцы Рэвалюцыйнай у Асіповічах згарэў камерцыйны кіёск (дарэчы, пяты ўжо па ліку). Вінаваты пакуль не знойдзены.

### Забойства па–суседску

*У вёсцы Замошша Асіповіцкага раёна нядаўна з мноствам цялесных пашкоджанняў знойдзены труп жанчыны С.*

Міліцыя хутка выйшла на след злачынца. Арыштавана падазраваемая П., якая, відаць, з-за сваркі зжыла сваю суседку.

### Абрабаванне на станцыі Ясень

*Злачынствы вялікія і дробныя адбываюцца сёння ў многіх рэгіёнах. Асіповічы — не выключэнне.*

Крадзяжы з крам сталі тут амаль што справай "звычайнай". За мінулы год іх зарэгістравана больш як 30.

А вось нядаўна ад буйнога крадзяжу пацярпела крама станцыі Ясень. Украдзена тавараў на суму звыш двух мільёнаў рублёў.

Іван СЦЯПУРА.

### Дзевятае неба

*Многія нашы чытачы ўжо ведаюць, што менавіта так — "Дзевятае неба" — мы назвалі нашу новую рубрыку, якая ўпершыню з'явілася на старонках газеты якраз напярэдадні Новага года.*

*З дапамогай сістэмы спадарожнікавага тэлебачання з нашага "дзевятага неба" перад вамі адкрыецца ўвесь свет. Толькі ў нас — самыя "гарачыя" і сенсацыйныя навіны з розных куткоў планеты, самая свежая інфармацыйная хроніка сусветных тэлеканалаў "Уорлднэт", "Суперчэннэл", "Еўраньюс" і "Еўраспорт", сустрэчы з самымі цікавымі і славутымі зямлянамі і многае іншае. Дарэчы, выказаць свае заўвагі, прапановы і пажаданні наконт зместу рубрыкі вы можаце ў любы працоўны час па тэлефонах 68–27–21, 68–29–45.*

*"ЕЎРАНЬЮС":*

Цэны растуць штогод не толькі ў СНД, але і ў Штатах. За першыя некалькі дзён новага 1994 года цэны на спажывецкія тавары павялічыліся ў ЗША на 3 працэнты ў параўнанні з 1993-м. На думку амерыканскіх эканамістаў, гэтая лічба не выклікае засцярогі, але напрыканцы бягучага года эканоміка Злучаных Штатаў можа сутыкнуцца з некаторымі праблемамі.

* * *

Прэм'ер-міністр замежных спраў Францыі заявіў, што Францыя адмаўляецца даць візу лідэру Ліберальна-дэмакратычнай партыі Расіі Уладзіміру Жырыноўскаму.

*"УОРЛДНЭТ":*

У Германіі зноў узнімаецца хваля нацыяналізму. Многія немцы выказваюць нянавісць да іншаземцаў. Паводле меркаванняў Канцлера Германіі, грамадзяне, якія так сябе паводзяць, не могуць лічыцца патрыётамі сваёй радзімы.

## БІЗНЕС-КЛАС

*Першы нумар "Чырвонкі" ў Новым годзе — і новая рубрыка "Бізнес–клас". Жывём мы ў цікавы час, калі ў структуры грамадства нашай краіны ўзнікаюць новыя класы і нават слаі насельніцтва. Сярод "нованароджаных" — прадпрымальнікі, камерсанты. Карацей, дзелавыя людзі. Аднак паколькі мы рушым да рыначнай эканомікі ўсе разам, а не толькі бізнесмены, то спадзяёмся, што інфармацыя, якую мы прапаноўваем пад новай рубрыкай, зацікавіць усіх нашых чытачоў. "Бізнес–клас" будзе аператыўна падаваць вашай увазе самыя свежыя навіны ў свеце бізнесу, цэны, курсы валют, аператыўныя каментары да эканамічных падзей, хроніку "чорнага рынку"... Што яшчэ? Спадзяёмся, вызначыць гэта дапаможаце нам і вы. Кантактны тэлефон рубрыкі "Бізнес–клас" — 68–28–52.*

### Прадпрымальнікі–дзецям

Больш як 70 падарункаў атрымалі на навагоднім ранішніку дзеці-інваліды Партызанскага раёна горада Мінска ад камерцыйнага цэнтра Саюза прадпрымальнікаў Рэспублікі Беларусь "Бізнес-Саюз" (генеральны дырэктар В.Д.Анішчанка). Трэба адзначыць, што гэта не адзіная "паказальная" дабрачынная акцыя "Бізнес-Саюза": ягоную шчырую зацікаўленасць даўно адчулі дзеці-інваліды школ-інтэрнатаў і дашкольных установаў.

### Казіно ў падарунак

Напярэдадні навагодніх святаў у Гродна ў гасцініцы "Турыст" адкрылася казіно, што з'яўляецца філіялам рэспубліканскага арэнднага аб'яднання "Белатракцыён". Моладзь новага мікрараёна і шматлікія госці горада атрымалі магчымасць цікава бавіць вольны час. Да іх паслуг 3 сталы для гульні "Блэк Джэк", стол для "Амерыканскай рулеткі" і 5 гульнявых аўтаматаў з новымі цікавымі праграмамі.

Гэта ўжо трэцяе казіно, адкрытае ў мінулым годзе "Белатракцыёнам" на Беларусі. Раней пацяшальныя ўстановы з'явіліся ў Брэсце і Гомелі. Своеасаблівы "пыласос" для грошай дасць магчымасць людзям адпачыць на свой густ і адначасова прынясе неблагі даход у гарадскую казну.

* * *

У апошнія дні мінулага года адбылася нарада Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, Федэрацыі прафсаюзаў рэспублікі, Савета беларускай канфедэрацыі прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў і Дзяржкампрацы па прыняццю праграмы занятасці насельніцтва рэспублікі. Як мяркуецца, у бягучым годзе на Беларусі застанецца без працы каля 630 тысяч чалавек. Маецца на ўвазе, што каля 420 тысяч беспрацоўных самі знойдуць сабе месца пад сонцам. Астатніх жа павінны працаўладкаваць цэнтры занятасці насельніцтва.

Днямі ў Савеце Міністраў адбылася закрытая нарада, на якой ішла гаворка аб стварэнні міжнароднай гандлёва-клірынгавай палаты. На пасяджэнні асаблівую ўвагу прыцягнула выступленне прэзідэнта Асацыяцыі камерцыйных банкаў Беларусі аб сённяшнім становішчы і далейшых напрамках працы камерцыйных банкаў рэспублікі.

* * *

Рэспубліканскае АА "Белатракцыён", якое ўзначальвае віцэ-прэзідэнт Саюза прадпрымальнікаў Рэспублікі Беларусь Аляксандр Калінін, пастаянна аказвае адчувальную матэрыяльную падтрымку спартыўным арганізацыям і асобным атлетам. Напрыклад, увесь мінулы год адна з дачыных фірм аб'яднання "Белатракцыён" "Ольша" выплачвала алімпійскую стыпендыю "залатым" медалістам Барселоны экіпажу байдаркі-двойкі Дзмітрыю Даўгалёнку і Аляксандру Масянкову, якія з'яўляюцца членамі нацыянальнай зборнай каманды рэспублікі і актыўна рыхтуюцца да новых стартаў.

### Статыстыка

Паводле апошніх даных Дзяржкамстата, кошт "спажывецкай карзіны" кожнага жыхара Рэспублікі Беларусь у лістападзе мінулага года склаў 74 521 рубель і 70 капеек.

* * *

Ідзе актыўная падрыхтоўка ў Савеце Саюза прадпрымальнікаў Беларусі да свайго IV з'езда, які адбудзецца 21—22 студзеня бягучага года.

**"ПАС" — палітыка-аналітычная служба**

# Што год надышоўшы нам рыхтуе?

□ **Андрэй ВАСІЛЕВІЧ**

*Мінулы год завяршыўся на мінорнай ноце. Нішто не давала падстаў для аптымізму, нават надвор'е. То палівала брыдкім зімовым доджджыкам, то расстаўляла на кожным кроку косткі галалёдных ям. На слізкіх тратуарах і лесвіцах людзі ламалі рукі і ногі — ім зараз баліць.*

*Але ва ўсіх нас баліць галава, бо не відаць жаданага выйсця. Нават беглы аналіз падзей прайшоўшага года паказвае, што тыя, хто на сённяшні дзень трымае ў руках лейцы ўлады, не ведаюць дакладнага напрамку.*

Глянем спачатку на дзейнасць Вярхоўнага Савета. Безумоўна, можна назваць шэраг заканадаўчых актаў, якія смела можна запісваць у дзяржаўны актыў. Але ці варта гаварыць пра асобныя рэдкія кроплі мёду, калі навокал гарката дзёгцю?

Успомнім, як шпарка і быццам бы шчыра абяцалі дэпутаты датэрміновыя выбары ў Вярхоўны Савет. Тады абяцанне было саломінкай, якая ратавала ад усенароднага рэферэндуму, ад поўнай адстаўкі і адыходу ў палітычнае небыццё. Абяцаны час выбараў — вясна 1994 года — ужо на парозе, а Вярхоўны Савет нічога эфектыўнага не зрабіў, каб яны сапраўды адбыліся. Няма новага выбарчага закона, няма паправак, на горшы выпадак, у стары. Буксуе праект Канстытуцыі.

Зараз узнікае ў дэпутацкіх кулуарах новая дата — восень 1994 года, бо веснавыя выбары ўжо проста немагчыма правесці.

Аб чым гэта гаворыць? Вярхоўны Савет менш за ўсё дбае пра моцны аўтарытэт у вачах грамадзян. Кожны з дэпутатаў вырашае сваю лакальную задачу. І калі нехта ставіць перад сабой палітычныя мэты, то вельмі многія дбаюць пра хлебнае месца, якое хочацца заняць пасля скančэння паўнамоцтваў. Кожнаму хочацца, каб не горш было, як цяпер. Скажам, у старшыні Пастаяннай камісіі грашовае ўтрыманне на ўзроўні міністра. Ненамнога адстаюць ад іх намеснікі старшынь, сакратары камісій.

Тыя, каму пашанцавала, адкрыта бяруць курс на паляпшэнне ўласнага дабрабыту.

Нашы парламентарыі не цураюцца паказваць усяму свету свае не самыя лепшыя якасці. Ну, не падабаецца многім Старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч — і ўсё. Адным — сваёй эрудыцыяй і навуковасцю, другім — сваёй шчырай беларускасцю, трэцім, што не прапанаваў нейкай пасады, чацвёртым — сваім хістаннем паміж БНФ і КПБ, памяркоўнасцю, якая часта прыводзіць да беспрынцыповасці...

У мінулым годзе ішло, можна сказаць, адкрытае паляванне з боку дэпутацкай большасці на кіраўніка Вярхоўнага Савета. Падставу, як паказвае практыка, знайсці няцяжка.

У маі на XII сесіі Вярхоўнага Савета Станіславу Шушкевічу прад'явілі рахунак за негатыўныя адносіны да Дагавора аб калектыўнай бяспецы. 166 дэпутатаў тады выказалі недавер Старшыні Вярхоўнага Савета.

Заўсёды кажуць, што любы канфлікт рана ці позна ацэніць гісторыя. Магчыма, яшчэ рана падагульняць нейкія вынікі, але сустрэча кіраўнікоў СНД паказала, што прынцыпы калектыўнай бяспекі не дапускаюць тых агаворак, якія робіць наш Вярхоўны Савет. Сэнс іх у тым, каб не пасылаць беларускіх салдат у гарачыя кропкі сутычак ці войнаў. Астатнія дзяржавы хіба хочуць, каб гінулі іх сыны? Узнікае пытанне, а чаму Беларусі патрэбны прывілеі?

Пра сутнасць тых спрэчак дэпутаты забыліся, але не забыліся пра жаданне "зваліць" Старшыню. Яскравы прыклад — падзеі на сесіі Вярхоўнага Савета ў снежні.

Безумоўна, Шушкевіча на гэты раз падвёў прафесарскі снабізм у адносінах да Аляксандра Лукашэнкі, хістанне ў сваіх сімпатыях ад Кебіча да Пазняка. Маляваць з Шушкевіча вобраз карумпіраванага элемента — прыём вар'яцкі. Бо сапраўдныя карупцыянеры сядзяць пакуль што ў цяньку, але і ім патрэбна замазваць чорнай граззю ўсіх падрад — тады лягчэй выкруціцца.

Бадай, самая вялікая цьмянасць мінулага года — аб'яднанне грашовых сістэм Расіі і Беларусі. Найбольш радыкальныя палітыкі Масквы адкрыта гавораць пра аб'яднанне дзяржаў. Праўда, нават вышэйшае чыноўніцтва Мінска не спяшаецца пазбаўляцца суверэнітэту, бо што ні кажыце, а ў яго вельмі шмат прывабных рысаў. Нявырашаная цяжкасць пра лёс беларускіх грошай перайшла ў год бягучы, і з неафіцыйных крыніц ідуць звесткі пра тое, што абвешчаны Вячаславам Кебічам маштаб абмену 1:1 — усяго толькі фікцыя, падман. Гавораць, што Расія настойвае на суадносінах 1:10.

Нацыянальная валюта Беларусі, якая так і не нарадзілася, застаецца безабароннай, гаротнай.

Беларусь імкнулася знайсці пачэснае месца ў свеце. Добры імпульс даў праведзены ў чэрвені I з'езд беларусаў. Чым не падстава для ўзмацнення еднасці? Але Народны рух Беларусі (аб утварэнні гэтай правакамуністычнай арганізацыі стала вядома ў мінулым годзе) патраціў нямала сіл, каб скампраметаваць з'езд).

У каго на душы больш праўды і шчырасці? У Народнага руху? Ці ў Народнага фронту?

Думаю, што ўсе палітыкі нямала зрабілі для таго, каб грамадзяне зняверыліся ў іх магчымасцях.

Памятаеце, як узнёсла апісвалі мінскія газеты візіты Станіслава Шушкевіча і Вячаслава Кебіча ў іншыя краіны. Старшыня Вярхоўнага Савета нават у Белым доме ў Вашынгтоне пабываў.

Які ж вынік? Ці павысіўся аўтарытэт Беларусі на міжнароднай арэне? Шкада, але галасаванне пры выбарах Беларусі ў члены Савета Бяспекі ААН скончылася для нас сумна. Не выбралі. Да нас хутка прыедзе прэзідэнт ЗША. Але гэта ўжо падзея надышоўшага года.

**РОДНАЕ СЛОВА**

## СТУДЗЕНЬ



*Літаратурны каляндар*

1 студзеня 1929 года ў Мінску адбылося ўрачыстае адкрыццё Беларускай Акадэміі навук (з 1936 года — Акадэмія навук БССР, з 1991 года — Акадэмія навук Рэспублікі Беларусь).

**4. АЎТОРАК.**
265 гадоў з дня нараджэння Іаахіма Храптовіча (Ігнацый Юзаф Літавор; 1729—1812), публіцыста, паэта, перакладчыка, грамадскага і палітычнага дзеяча Вялікага княства Літоўскага, заснавальніка Шчорсаўскай бібліятэкі.
125 гадоў з дня нараджэння Ядвігіна Ш. (сапр.А.І.Лявіцкі; 1869—1922), беларускага пісьменніка, аднаго з пачынальнікаў беларускай прозы.

**6. ЧАЦВЕР.**
7 студзеня — 70 гадоў з дня нараджэння (1924 г.) Г.У.Шыловіча, беларускага пісьменніка.
7 студзеня — 70 гадоў з дня нараджэння (1924 г.) Б.І.Бур'яна, беларускага крытыка і празаіка.

**7. ПЯТНІЦА.**
НАРАДЖЭННЕ ХРЫСТОВА.
Праваслаўныя Каляды.

**8. СУБОТА.**
70 гадоў з дня нараджэння (1924 г.) Алеся Савіцкага (Аляксандр Анufрыевіч), беларускага пісьменніка.
70 гадоў з дня нараджэння У.І.Дадзіёмава (1924—1983), беларускага пісьменніка.

**10. ПАНЯДЗЕЛАК.**
75 гадоў з дня нараджэння А.Гейне (1919—1942), беларускага паэта.

**11. АЎТОРАК.**
1834—1839 — дзейнасць у Віцебску настаўніцкай семінарыі.
90 гадоў з дня нараджэння Янкі Шутовіча (Іван Іосіфавіч; 1904—1973), беларускага публіцыста, грамадскага і культурнага дзеяча, у 1935—1939 гг. — рэдактара-выдаўца часопіса "Калоссе".

**12. СЕРАДА.**
75 гадоў з дня нараджэння В.Ф.Хомчанкі (1919—1992), беларускага пісьменніка.

**14. ПЯТНІЦА.**
100 гадоў з дня нараджэння П.Я.Юргелевіча (1894—1973), беларускага мовазнаўца.

**18. АЎТОРАК.**
17 студзеня споўнілася 90 гадоў з дня нараджэння Алеся Якімовіча (Аляксандр Іванавіч; 1904—1979), беларускага пісьменніка.

**25. АЎТОРАК.**
125 гадоў з дня нараджэння Гурыновіча (1869—1894), беларускага паэта-дэмакрата, фалькларыста, рэвалюцыянера.
70 гадоў з дня нараджэння (1924 г.) В.У.Мартынава, беларускага мовазнаўца.

**26. СЕРАДА.**
420 гадоў таму назад (1574 г.) у Лоскай друкарні выйшлі творы Сымона Буднага "Пра дзве сутнасці Хрыста", "Кароткі доказ, што Хрыстос не з'яўляецца такім жа Богам, як Айцец...", "Супраць Хрышчэння дзяцей", "Наконт аргументаў Сімлера пра дзве сутнасці Хрыста".

**30. НЯДЗЕЛЯ.**
110 гадоў з дня нараджэння А.І.Луцкевіча (1884—1942), беларускага публіцыста, літаратурнага крытыка, грамадскага дзеяча.

**31. ПАНЯДЗЕЛАК.**
80 гадоў з дня нараджэння (1914 г.) Я.А.Хелемскага, рускага паэта, празаіка, перакладчыка беларускай літаратуры.

**ГІСТАРЫЁГРАФ**

# Слуцкія паясы

□ **Мікола БАГАДЗЯЖ, "ЧЗ"**

*Слуцкія паясы. Рэч, якая шырока вядома сучасным жыхарам Беларусі хіба што толькі дзякуючы таму, што ў школьную праграму ўключаны верш Максіма Багдановіча "Слуцкія ткачыхі". А, між тым, у мінулым яны мелі на нашай зямлі шырокае распаўсюджанне. Ды яно і нядзіўна. Бо нацыянальнае адзенне кіруючых саслоўяў вымагала неабходнасць яго набыцця. Ды і наогул для ўсходнеславянскіх народаў паясы мелі велізарнае значэнне. З'яўляліся неад'емнай часткай як мужчынскага, так і жаночага адзення. Прычым выконвалі не толькі і не столькі сваё асноўнае прызначэнне — утрымліваць адзенне, а і для нашэння зброі, грошай (як унутры, так і ў прывешаных кашальках). Выкарыстоўвалі іх і пры разнастайных абрадах.*

Зразумела, што кожны чалавек тых часоў меў некалькі паясоў: святочны, штодзённы, рабочы і г.д. Былі яны як мясцовага вырабу, так і прывазныя з усходу (так званыя кушакі). Апошнія атрымалі яшчэ агульную назву "персідскія". Іх насіла пераважна шляхта і мяшчанства. Вялікі попыт на іх, як і вялікі кошт (да 500 дукатаў) натхнілі частку гандляроў на арганізацыю мясцовай вытворчасці. Гэтым жа вырашылі заняцца і многія магнаты.

Адна з такіх невялікіх мануфактур была заснавана Радзівіламі ў прыгарадзе Нясвіжа Альбе. Аднак вялікіх прыбыткаў не давала. Тое ж адбывалася і з дзеючай у Слуцку майстэрняй па вырабу галуноў, пазументаў і іншых залататканых вырабаў.

Пералом адбыўся ў 1760 годзе. Менавіта ў гэты год памер уладальнік Слуцка Іеронім Фларыян Радзівіл, і горад пераходзіць у асабістае ўладанне яго брата Міхала Казіміра. У хуткім часе нясвіжская мануфактура пераводзіцца ў Слуцк. Аб'яднанне гэтых майстэрняў паслужыла асновай для стварэння прадпрыемства, якое хутка набыло шырокую вядомасць.

У першы час адзінымі работнікамі, якія стваралі гэтыя творы мастацтва (інакш нельга назваць гэтыя паясы) былі запрошаныя на працу туркі і персы. Выробленыя паясы капіравалі ўсходнія ўзоры. Пазней двух мясцовых вучняў — Хаецкага і Гадоўскага паслалі на абучэнне на такую ж мануфактуру ў горад Станіслаў (сучасны Івана-Франкоўск) да атрымаўшага ў той час шырокую вядомасць майстра Яна Маджарскага. Вярнуўшыся ў Слуцк, яны прынеслі з сабой больш дасканалую методыку. Зрабіць гэта ім удалося яшчэ і таму, што ў Станіславе было закуплена больш сучаснае (для тых часоў) абсталяванне для вытворчасці.

Адной з асаблівасцей працы на персіярнях (так называлі мануфактуры па вырабу "персідскіх" паясоў было тое, што на іх працавалі толькі мужчыны. На "Слуцкую" набіралі наёмных рабочых альбо з мяшчан, альбо з прыгонных сялян. Частка з іх вядома. Акрамя дзвюх вышэйназваных, працавалі Іосіф Барсук, Міхаіл Баранцэвіч, Канчыла, Лойка. Гэтыя беларускія майстры не толькі пераймалі, але і творча перапрацавалі ўсходняе рамяство, надаўшы яму нацыянальны характар. Для ўсяго гэтага спатрэбілася 10—15 гадоў. За гэты перыяд абслугоўванне мануфактуры цалкам перайшло да мясцовых майстроў. Выключэннем з'яўляўся толькі ўпраўляючы (мэтр) мануфактуры венгр Ян Маджарскі, які быў запрошаны Міхалам Казімірам Радзівілам на пасаду ўпраўляючага. Аднак выконваў яшчэ і функцыі майстра-настаўніка. Сведчаннем гэтага з'яўляецца адзін з пунктаў падпісанага ім і князем пагаднення. У яго ўключаліся абавязацельствы навучыць княжацкіх ткачоў свайму майстэрству. Але Ян не толькі вучыў слуцкіх ткачоў, але і сам прыглядваўся да беларускай народнай творчасці і пераймаў яе мастацтва.

Ян Маджарскі быў не толькі вялікім знаўцам сваёй справы, таленавітым чалавекам, але і выдатным арганізатарам. Пад яго кіраўніцтвам слуцкая персіярня была рэарганізавана і тэхнічна пераўзброена. Хутка яна набыла велізарную вядомасць не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі. Яе вырабы карысталіся такім попытам, што ўладальнікі існаваўшых раней мануфактур па вырабу "персідскіх" паясоў пачалі выраблять іх па слуцкіх узорах. Так адбылося на прадпрыемствах Гродна, Кракава, Кабылак, Ліцкава (каля Варшавы) і нават у Станіславе. Новыя персіярні, якія ўзніклі ў Гданьску, Карэлічах і Ружанах, таксама ткалі "слуцкія паясы". Больш таго, гэтай жа справай заняліся некалькі шаўкаткацкіх прадпрыемстваў Францыі.

Ян Маджарскі кіраваў мануфактурай да 1778 года, а затым перадаў яе свайму сыну Леону. У гады працы Леона развіццё вытворчасці працягвалася. Сваю вядомасць і багацце, якое нажылі з бацькам, Маджарскі-малодшы выкарыстаў у канцы XVIII стагоддзя. Канстытуцыя 1791 года дазволіла яму атрымаць шляхецтва. А ў наступным годзе Леон атрымаў пасаду камергера пры двары караля Станіслава Аўгуста.

Гэтыя "каралеўскія міласці" зрабілі Леона Маджарскага верным прыхільнікам польскага караля, таму ён без вялікай радасці аднёсся да далучэння Беларусі да Расіі. Палітычныя падзеі і палітычныя сімпатыі ўладальніка мануфактуры і ўпраўляючага адбіліся і на яе прадукцыі. Так, пасля знішчэння аўтаноміі Вялікага княства Літоўскага (у склад якога ўваходзіла і Беларусь) і поўнага далучэння да Польшчы ў Слуцку былі выпушчаны паясы з меткай у выглядзе аднагаловага каранаванага арла — польскага дзяржаўнага герба. Адмена канстытуцыі 1791 года была адзначана выпускам зялёных сатканых серабром паясоў. Зялёны колер сімвалізаваў май (канстытуцыя была прынята 3 мая) і надзеі. Пасля далучэння Беларусі да Расіі нашэнне зялёных паясоў было забаронена, а ў пачатку XIX стагоддзя паследавала забарона насіць кунтуш — нацыянальнае адзенне, неад'емнай часткай якога з'яўляўся пояс. У сувязі з гэтым попыт на слуцкія паясы значна знізіўся, таму вытворчасць пачала згортвацца.

У 1807 годзе скончыўся тэрмін арэнды Леона Маджарскага з Дамінікам Радзівілам і Леон яго больш не ўзнавіў. Пасля гэтага мануфактура перайшла на выпуск вырабаў іншага тыпу, — на ёй пачалі выпускаць галуны, махры з шоўку, стужкі, парчовыя тканіны. Але выпуск, прызначаны галоўным чынам для патрэб царквы, таксама скараціўся. Мануфактура прыходзіла ў заняпад і ў 1844 годзе была закрыта.

Здавалася, што яе вырабам наканавана было знішчэнне. Аднак атрымалася інакш. Яны перажылі стварыўшую іх мануфактуру і дайшлі да нашых часоў. Прычына ў гэтым адна — вялізная іх мастацкая каштоўнасць. Зразумелі гэта яшчэ ў другой палове мінулага стагоддзя, калі яны сваёй непаўторнай прыгажосцю прыцягнулі ўвагу мастацтвазнаўцаў і калекцыянераў. І пайшлі яны вандраваць па свеце. Асядаць у музеях і прыватных зборах. У наш час багацейшыя калекцыі слуцкіх паясоў маюцца ў Маскве (Дзяржаўны гістарычны музей), Ленінградзе (Эрмітаж і Этнаграфічны музей народаў СССР), Львове (Этнаграфічны музей).

У Беларусі невялічкая калекцыя паясоў знаходзіцца ў сталічным Дзяржаўным гістарычным музеі і гісторыка-археалагічным музеі ў Гродна. Адзін пояс — падарунак нашага земляка з Англіі — захоўваецца ў Музеі старажытнабеларускага мастацтва Акадэміі навук (Мінск). Яшчэ адзін пояс выменялі ў Маскве супрацоўнікі Мінскага абласнога краязнаўчага музея (Маладзечна). А ў Слуцку ў краязнаўчым музеі ўсяго толькі два невялічкія кавалкі.

*Некалькі дзён таму мы развіталіся з годам Пеўня. Што і казаць, 1993 адпавядаў свайму астралагічнаму вобразу. Шумны, насычаны стракатай мазаікай падзей. Песень мы наслухаліся шмат, вось толькі ўзляцець не змаглі — Певень. Зрэшты, адчуванне палёту стваралі цэны. На працягу года "пеўні" выляталі неаднойчы. Успомнім лета, гарачы песенны фестываль, на якім узляцеў звонкагалосы эстрадны "Залаты певень". Апошні "певень" узляцеў не дзе–небудзь, а на палітычным небасхіле перад самым Новым годам. І не толькі ўзляцеў, а нават паспеў дзеўбануць сяго–таго...*

*Прама скажам, логіка падзей мінулага 1993 года не шмат унесла яснасці і парадку ў заблытанае жыццё дзесяцімільённай краіны з умераным кліматам, умеранымі палітычнымі амбіцыямі і буферным становішчам паміж Захадам і Усходам. Але, як бы там ні было, незалежная Беларусь пражыла яшчэ адзін год — эканамічна–напружаны і палітычна–небяспечны. Гэта значыць, яшчэ на адзін год стала менш з шэрагу тых цяжкіх гадоў, у вір якіх трапіла краіна, на будучы дабрабыт якой так хочацца спадзявацца. Гэта значыць, мы яшчэ на 365 дзён наблізіліся да таго моманту, калі можна будзе ўздыхнуць з палёгкай, адчуўшы сябе грамадзянінам багатай, вольнай краіны.*

# Яшчэ на адзін год бліжэй...






















*Сёння вельмі цяжка чым–небудзь здзівіць патрабавальнага чытача. Ён ведае ўсё, і гэта ўсё — пачынаючы ад "Баунці" і канчаючы выдатнай кампаніяй "Хапёр–інвест" — яму страшэнна надакучыла. Хаваючыся ад паўсюдных праяў падманлівай палітыкі і жорсткай эканомікі, людзі вяртаюцца да спрадвечных каштоўнасцей. Яны шукаюць паратунку ў сям'і, дзецях, каханні... Пакуль не састарэюць радасці і перажыванні, звязаныя з узаемаадносінамі дваіх, датуль артыкулы, змешчаныя пад рубрыкай "Адам і Ева", будуць, спадзяюся, знаходзіць сваіх чытачоў. Неверагодныя і звычайныя гісторыі кахання, метамарфозы і падводныя рыфы сямейнага жыцця, інтымныя праблемы і спосабы іх вырашэння, проста жыццёвыя парады — пра ўсё гэта вы зможаце прачытаць у рубрыцы "Адам і Ева". Спецыяльна для маладых і не вельмі спакушаных жыццём на старонках газеты мы адкрываем завочны інтым–клуб пад назвай "Спытайце ў Наташы". Звярнуўшыся да нас у пісьмовай форме, вы атрымаеце праз газету адказ на любое хвалюючае вас пытанне інтымнага характару. Гэту рубрыку нам дапамогуць весці вопытныя ўрачы, псіхолагі, сацыёлагі.*

*Так што пішыце, пытайцеся, дзяліцеся ўражаннямі ці проста... настроем.*

*Вашых пісьмаў заўсёды з нецярплівасцю чакае*

вядучая рубрыкі "Адам і Ева"
Наталля СТРАЛКОВА.

АДАМ І ЕВА

# Цнатлівая ці раскаваная?

## Або Пра тое, што можа здарыцца з вамі ў першую шлюбную ноч

□ Наталля СТРАЛКОВА, "ЧЗ"

У рэдакцыю прыйшло пісьмо, якое варта прывесці амаль поўнасцю:

"...Сваю дачку я выхоўваю адна. Ёй пяць год, і за сваё маленькае жыццё яна ні разу не бачыла таты. Мы з мужам разышліся па прычыне, пра якую і пісаць сорамна. І ўсё ж вырашыла перасіліць сябе: магчыма, ён ці нехта іншы прачытае маё пісьмо, зразумее, як часам цяжка прыходзіцца жанчынам, дарэмна пакрыўджаным, без віны вінаватым.

Шэсць год таму я выйшла замуж за любімага чалавека. Яшчэ да вяселля ён не адпускаў мяне ад сябе ні на крок і мог успыліць ад звычайнага цікаўнага погляду, кінутага ў мой бок якім-небудзь мужчынам. Усё гэта я палічыла вялікім каханнем, і неўзабаве мы апынуліся ў загсе. Коля здаваўся такім шчаслівым! Адразу пасля таго, як падалі заяву, паехалі на кватэру да яго бацькоў, каб адзначыць падзею. Я вельмі хвалявалася, бо ніколі раней не бачыла будучых свёкра і свякруху. Але дома іх не аказалася... Коля згараў ад жадання, быў такі пяшчотны, пакуль паміж намі не адбылося тое, што павінна было адбыцца... Я не была "дзяўчынкай" у фізіялагічным сэнсе гэтага слова, але не лічыла гэта страшнай заганай. Якая розніца, што там было ў мінулым, калі зараз мы кахаем адзін аднаго? Аказалася, не так усё проста... Пасля першай блізкасці ён пачаў шукаць на прасціне прыкметы маёй цнатлівасці, а, не знайшоўшы, ледзь не звар'яцеў... Я плакала, клялася ў каханні, прасіла прабачэння за тое, што не чакала ўсё жыццё яго — адзінага, а дазваляла сабе маленькія радасці... Ён згадзіўся афіцыйна зарэгістраваць шлюб, "адбыў" вяселле, але нічога не дараваў. Праз два месяцы папрокаў і пакут мы разышліся.

Няўжо мужчыны такія эгаісты? Няўжо ўсё жыццё трэба берагчы сябе для нейкага прынца, які невядома яшчэ ці прыйдзе?".

...Традыцыі многіх народаў патрабавалі (і патрабуюць) захавання дзяўчынай да шлюбу дзявоцкай плявы. Да гэтай пары неабходнай часткай шлюбнага абраду ў некаторых краінах з'яўляецца вывешванне на агляд шматлікіх родных і блізкіх прасціны "з-пад маладых" пасля іх першай ночы. Падобныя звычаі цяжка назваць перажыткамі, бо яны дажылі і да нашых дзён, змяніўшы, магчыма, толькі форму, вонкавы бок, але не сутнасць. Ці не таму частка маладых мужчын у першую шлюбную ноч значна больш увагі ўдзяляе не ласкам жонкі, не словам кахання і ўдзячнасці, не жаданню правесці інтымную блізкасць з максімальнай пяшчотай і тактоўнасцю, а менавіта пошукам "доказаў" цнатлівасці?

Дарэчы, дылетантам у гэтай сферы нядрэнна было б ведаць пра тое, што адсутнасць крывяністых выдзяленняў далёка не заўсёды сведчыць пра адсутнасць цнатлівасці. Існуе шэраг прычын, з-за якіх крыві пры першай блізкасці можна не ўбачыць. Але сутнасць не ў гэтым. А ў тым, што нельга ўскладаць на найвялікшую зямную патаемнасць кантрольна-праверачную функцыю. Калі вы сумняваецеся ў прыстойнасці сваёй выбранніцы, навошта тады весці яе ў загс?

"...Мне шаснаццаць год. Я вучуся ў школе. Раней займалася на "4" і "5", зараз "з'ехала" на "трохчкі". Віной усяму — каханне. Я не магу жыць без Віці. Ён вучыцца ў паралельным класе, і я жыву "ад званка да званка", чаканнем перапынку... З кожным днём адчуваю ўсё большую безнадзейнасць і бязвыхаднасць. Ён — разумны, прыгожы, высокі, модна апрануты. Я — шэрая мышка, якіх у школах сотні... Мы вітаемся, размаўляем — але не больш. Віця лічыць мяне "пасрэднасцю", а на дыскатэках танцуе з іншымі. Засталося адзінае выйсце — прапанаваць яму сябе поўнасцю і канчаткова. Магчыма, гэту ахвяру ён ацэніць па-сапраўднаму? Можа я таксама падабаюся Віцю, але ён чакае першага кроку з майго боку? Як мне быць? Парайце..."

Яшчэ адно пісьмо. Яшчэ адно жаданне кінуцца ў вір, не думаючы пра тое, што можа здарыцца пасля, у тую самую першую шлюбную ноч, якая наўрад ці будзе належыць вышэйпамянёнаму прыгажуну з паралельнага класа. Такія звычайна больш шукаюць прыгод, чым трывалых пачуццяў.

Нягледзячы на нашу сучаснасць і незалежнасць, неардынарнасць і экстравагантнасць, дэмакратычнасць і самастойнасць, у адносінах да сваіх выбраннікаў і выбранніц мы ўсе крыху кансерватары і ўласнікі. Сексуальная рэвалюцыя крочыць па краіне, парнафільмы глядзяць пяцікласнікі, сямікласнікі робяць аборты і раджаюць дзяцей, "Эмануэлі" пануюць у кожным падземным пераходзе — здавалася, каму якая справа да дзявочай цнатлівасці? Навошта яна ўвогуле патрэбна, калі не мае ніякага біялагічнага і сацыяльнага значэння? Але — не. Як сцвярджае псіхолаг Мінскага гарадскога сексалагічнага цэнтра Тамара Аляксееўна Сотнікава, праблема цнатлівасці не адышла з цягам часу на задні план. Яна па-ранейшаму хвалюе жанчын і мужчын, а адсутнасць плявы ў наваспечанай "паловы" часта становіцца прычынай цяжкіх перажыванняў маладога мужа і канфліктаў у сям'і. Аказваецца, меркаванні наконт таго, што жанчына павінна захоўваць цнатлівасць да шлюбу, не страціла сваёй актуальнасці і сёння. Менавіта таму многія мужчыны ў першую ноч, замест таго, каб поўнасцю аддацца пачуццю, з напружаннем чакаюць, ці сустрэнуць на сваім шляху да незямной асалоды якую-небудзь фізіялагічную перашкоду. І калі не...

А адказваць за ўсё — нам. І думаць — нам. Вы памятаеце сваё вяселле? Шумяць, гуляюць госці... Усхвалявана пазірае на гадзіннік муж... Праз некаторы час вы зойдзеце ў спальны пакой і за вамі зачыняцца дзверы. І надыдзе тая адзіная ў жыцці ноч, якая завецца першай шлюбнай.

"...Замуж я выйшла позна — у 27 год. Да гэтага жыла з бацькамі, якія выхоўвалі мяне ў строгасці, забараняючы нават суботнія вечарынкі ў сяброў і ўсё, што магло прывесці да "непажаданай цяжарнасці". Мой будучы муж ім вельмі спадабаўся. Сціплы, стрыманы, тактоўны, ветлівы. Заўсёды — з кветкамі для будучай цешчы і бутэлькай для цесця. Мы цаваліся ў пад'ездзе, але на большае я рашыцца не магла. Мама сказала, што калі аддамся Сашу да вяселля, ён не будзе мяне паважаць і ўвогуле...кіне. Лепш бы так яно і было! Я звязала сваё жыццё з садыстам і вар'ятам. Па начах ён мучыць мяне, прымушае рабіць тое, чаму я праціўлюся кожнай сваёй клетачкай. Хранічна не высыпаюся і паталагічна баюся надыходу ночы. Магчыма, у нас проста розны ўзровень сексуальнай падрыхтоўкі, але пра гэта мне варта было даведацца раней, яшчэ да шлюбу. Цяпер — позна... Днямі была ў гінеколага. Дыягназ гучаў як прыгавор: шаснаццаць тыдняў цяжарнасці, аборт рабіць позна..."

Жыццё шматграннае і разнастайнае і часам паварочваецца да нас не самым прыемным бокам... Калі пра гэта думаць, то з аўтарам апошняга ліста можна пагадзіцца. Існуюць жа — і не толькі за мяжой — пробныя шлюбы, або шлюбы на праверку сумяшчальніцтва — псіхалагічнага і фізіялагічнага. Магчыма, нешта ў гэтым ёсць. Магчыма, многа чаго, акрамя, бадай што, патаемнасці. Вы свядома рыхтуеце адзін аднаго да сямейнага жыцця, прыкмячаеце, вывучаеце недахопы, пагражаеце магчымым разрывам, калі супрацьлеглы бок не апраўдае даверу. Увогуле, як лічыць мой знаёмы сацыёлаг, у часовых шлюбах ёсць нешта такое, што прыніжае чалавечую годнасць. Маўляў, ты пакруціся, а я пагляджу, падумаю, браць цябе ў жонкі ці не...

Словам, я не збіраюся выпісваць рэцэпты на ўсе выпадкі. Іх — безліч, і канешне, пэўная сітуацыя патрабуе своеасаблівага падыходу. Якою трэба быць у першую шлюбную ноч? Цнатлівай? Раскаванай? Сарамлівай? Вопытнай? Гэта можаце вырашыць толькі вы. Адзіная парада: як бы там ні было, пастарайцеся абмеркаваць усе хвалюючыя вас пытанні напярэдадні вяселля, каб не ствараць для вашага выбранніка непрыемных сітуацый. Шчыраму, узвышанаму каханню не ўласцівыя падазронасць і недавер, а тым больш абразы і прыдзіркі.

...За вамі зачыніліся дзверы спальні. Першая шлюбная ноч уступіла ў свае правы. Ад таго, як вы будзеце паводзіць сябе, залежыць, ці пасяліцца шчасце пад вашым дахам.

Фота Ірыны ГУДЗІЕЎСКАЙ.

■






# Навагодняя ёлка

## Апавяданне

□ Мікола КАПЫЛОВІЧ

Чаму так цяжка на душы, чаму я ўвесь нейкі самотны, змучаны? Перагуляў учора? Ці можа ад учарашняй балбатні ўсё яшчэ гняце мяне?

Божа мой, божа мой! Сабраліся сустракаць Новы год — весяліся, смейся ці пі шампанскае! Так сустракаюць нармальныя людзі самае цудоўнае свята ў годзе. А мы на ўсю ноч развялі высокаінтэлектуальную размову пра нашыя непарадкі, абыякавасць. І хаця б карысць якая была ад гэтай размовы, хоць бы свае грамадзянскія пачуцці выказалі і папоўнілі запасы мужнасці і адвагі на няпросты наступны год.

А што было? Расказвалі пра розныя непрыемныя выпадкі — пра бюракратычнае самадурства, пра хабарніцтва і карупцыю — і ніякага пратэсту, ні аднаго слова абурэння. Звыкліся, змірыліся. І менавіта ў гэтым быў увесь жах, бо хто сабраўся, хто сядзеў за сталом? Настаўнікі, урачы, розныя інжынеры і служачыя, — словам, тыя, каго прынята называць інтэлігенцыяй.

Доўга я, увесь разбіты і змучаны, ляжаў у ложку, зноў і зноў пракручваў у галаве ўсе падрабязнасці ўчарашняга вечара, панылым поглядам абводзіў пакой. Вялізны, нібы скрыня, тэлевізар на ўвесь кут, паліраваны сервант, або сцярвант, як бы сказалі мае вясковыя землякі, застаўлены ўсялякім посудам, лялькі ў нацыянальных касцюмах, якія мне падарылі мастакі.

А дзе ж навагодняя ёлка? Жонка з сынам звычайна ставілі ёлку ў маім пакоі ў самы пярэдадзень Новага года — свежую, марозную, амаль без усялякіх упрыгажэнняў, у самым натуральным выглядзе, і да раніцы яна напаўняла лясным водарам увесь пакой.

Дык вось чаму ў мяне несвяточна сёння на душы, пачаў я панoваму растлумачваць прычыны свайго дрэннага настрою — ёлкі няма дома. Учора жонка з сынам бегалі па ўсім горадзе, але не змаглі яе дастаць. А без ёлкі які ж Новы год?

Зазвінеў званок — пошта, відаць. Я пазнаў Вольгу-паштарку па голасе. Яна віншавала жонку з Новым годам, а жонка віншавала паштарку. А потым, як я зразумеў з далейшай размовы, жонка хацела грашыма аддзячыць паштарку за паслугі — у нас вялікая пошта, і Вольга часам некалькі разоў на дзень наведваецца да нас.

— Не, не, — пачуў я зноў яе голас, — гэта наша работа, нам за яе плацяць. Вы мяне крыўдзіце...

Крыўдзіце? Гэта яе крыўдзяць? Божа, атрымлівае не такія ўжо і вялікія грошы за сваю цяжкую працу (паспрабуй на сабе пацягаць цэлымі днямі пудовую сумку з дома ў дом, з лесвіцы на лесвіцу) ды яшчэ і — "крыўдзяць".

Я пайшоў жонцы на падмогу.

Бачу, стаіць у прыхожай ужо немаладая жанчына ў цёплай хустцы. Шэрае, таннае, зашмальцаванае паліто з заячым каўняром, старыя боты. І вось мы ўжо ўдваіх з жонкаю ўгаворваем Вольгу прыняць ад нас падарунак. І зноў: не і не...

Я набавіў сотню — можа, цяпер будзе больш згаворлівай.

— Вы мяне крыўдзіце! — зноў сказала Вольга. І сказала ўжо цвёрдым, настойлівым голасам, у якім, аднак, угадваліся з цяжкасцю стрымліваемыя слёзы.

І я глядзеў у яе вялікія, спакойныя шэрыя вочы і раптам зразумеў, што на самай справе крыўджу яе. Кваплюся на самае дарагое яе багацце — сумленне і непадкупнасць працаўніцы.

Мне стала сорамна. Сорамна да слёз. І ў той жа час якое святло хлынула ў маю душу!

■

# РЭЛІГІЙНЫЯ СВЯТЫ 1994 ГОДА

## ПРАВАСЛАЎНЫЯ

Нараджэнне Хрыстова — 7 студзеня
Новы год — 14 студзеня
Вадохрышча — 19 студзеня
Стрэчанне (Грамніцы) — 15 лютага
Благавешчанне — 7 красавіка
Вербная нядзеля — 24 красавіка
Вялікдзень — 1—2 мая
Радаўніца — 10 мая
Ушэсце — 9 чэрвеня
Сёмуха — 19 чэрвеня
Духаў дзень — 20 чэрвеня
Дзень Пятра і Паўла — 12 ліпеня
Спас — 19 жніўня
Успенне — 28 жніўня
Нараджэнне Божай Маці — 21 верасня
Узвіжанне — 27 верасня
Пакровы — 14 кастрычніка
Увядзенне ў храм — 4 снежня

## КАТАЛІЦКІЯ

Новы год — 1 студзеня
Вадохрышча — 6 студзеня
Стрэчанне (Грамніцы) — 2 лютага
Благавешчанне — 25 сакавіка
Вербная нядзеля — 27 сакавіка
Вялікдзень — 3—4 красавіка
Ушэсце — 12 мая
Сёмуха — 29 мая
Духаў дзень — 22 мая
Дзень Пятра і Паўла — 29 чэрвеня
Спас — 6 жніўня
Успенне — 15 жніўня
Нараджэнне Божай Маці — 8 верасня
Узвіжанне — 14 верасня
Дзень Усіх Святых — 1 лістапада
Задушны дзень —2 лістапада
Нараджэнне Хрыстова — 25 снежня

## ЕХБ, ХВЕ

Новы год — 1 студзеня
Нараджэнне Хрыстова — 7 студзеня
Вадохрышча — 19 студзеня
Стрэчанне (Грамніцы) — 15 лютага
Благавешчанне — 7 красавіка
Вербная нядзеля — 24 красавіка
Вялікдзень — 1—2 мая
Ушэсце — 9 чэрвеня
Сёмуха — 19 чэрвеня
Спас — 19 жніўня
Свята жніва — 25 верасня

## ІУДЗЕЙСКІЯ

Пурым — 25 лютага
Песах (Вялікдзень) — 27 сакавіка
Шавуэс — 16 мая
Рош-Ашана (Новы год) — 6 верасня
Іом-Кіпур — 15 верасня
Сукот (Кушчы) — 20 верасня
Сімхас-Тора — 28 верасня
Ханука — 28 лістапада

## МУСУЛЬМАНСКІЯ

Першы дзень рамазана (паста) — 12 лютага
Ураза-Байрам — 14 сакавіка
Курбан-Байрам — 21 мая
Хіджра (Новы год) — 11 чэрвеня
Маўлід — 20 жніўня

СТРАКАТАЯ МАЗАІКА

### А НА ЁЛЦЫ — РАДЫЕ - АКТЫЎНЫЯ ІГОЛКІ

Толькі чыстая выпадковасць засцерагла адну з гомельскіх сем'яў ад дадатковага радыеактыўнага апраменьвання ў навагоднія дні.

Адзін клапатлівы тата па сходнай цане набыў у прыдарожнага камерсанта ёлку. Але перш чым парадаваць дзяцей, заглянуў на працу да таварыша. Той дзеля цікаўнасці і абследаваў пушыстую прыгажуню дазіметрам. Прыбор зашкаліла: узровень радыяцыі быў намнога вышэйшы за дапушчальны.

Паводле даных інстытута лесу Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь, дрэвы па-ранейшаму застаюцца асноўнымі накапляльнікамі радыеактыўных рэчываў. Прычым зялёныя "мікрарэактары" растуць нават на даволі чыстых глебах. А паколькі кожную ялінку перад продажам дазіметрам не абследуеш, многія жыхары Гомельшчыны аддаюць перавагу штучным прыгажуням.,

БЕЛІНФАРМ.

### ЯК ЖЫВЕШ, СЯРЭДНЯЯ ДУША?

Згодна з інфармацыяй Статыстычнага камітэта СНД, у адыходзячым годзе ў краінах Садружнасці назіралася зніжэнне жыццёвага ўзроўню большасці насельніцтва. Адбылося гэта з-за сярэднедушавых грашовых даходаў, якія апярэджваюць рост спажывецкіх цэн. Так, у Беларусі чысты грашовы сярэднемесячны даход у першым паўгоддзі 1993 года склаў у рублях 13 554, што ў параўнанні з 1990 годам больш у 81,8 раза, а цэны ў параўнанні з гэтым жа перыядам "скокнулі" ў 129,9 раза. Трэба сказаць, што наша рэспубліка яшчэ не вельмі дрэнна выглядае ў кампаніі, скажам, з Кыргызстанам, дзе зарплата вырасла ў 47,9 раза, в цэны — у 138,6; Малдовай — 54,1 і 173,1; Таджыкістанам — 36,4 і 115,0 або Украінай, якая нават не рашылася прадставіць неабходныя звесткі ў камітэт па статыстыцы.

### ПРЫЙДЗЕЦЦА САСКРЭБВАЦЬ ... ВОЗЕРА

У выніку прарыву ачышчальных збудаванняў брудныя сцёкі хлынулі на лёд возера Бараўно, у Лепельскім раёне. Эколагі праводзяць аналізы і спадзяюцца на адносна "паспяховы" зыход: у лепшым выпадку прыйдзецца як-небудзь саскрэбці верхні слой азёрнага лёду.




### ШОСТАЕ СЭРЦА

Ноччу з 28 на 29 снежня ў Віленскім цэнтры хірургіі пацыенту перасадзілі сэрца. Аперацыя працягвалася каля 6 гадзін.

Пацыент, 29-гадовы вілянчук Віталь Кудзімаў, ужо пяць гадоў пакутаваў на цяжкую сардэчную хваробу. Яму было перасаджана сэрца 18-гадовага хлопца, які скончыў самагубствам. Аперацыя прайшла паспяхова. Гэта ўжо шостая падобная аперацыя ў Літве. Першы раз віленскія кардыяхірургі перасадзілі сэрца ў 1987 годзе.

. БелаПАН.

### "НАВАГОДНІ ПАДАРУНАК" З ЦЯЖКІМІ ВЫНІКАМІ

У мінулую сераду улады Перу аб'явілі паветраную трывогу. У выніку ўзарвалася бомба непадалёку ад офісаў Цэнтра сацыяльнага развіцця. Пры гэтым былі пашкоджаны 20 будынкаў, размешчаных побач.

"ЧЗ-інфарм"

■

